# СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКА-ЭВАНГЕЛЬСКІ ЧАСАПІС

Год выд. 33 | 1966 | № 1 (82)

*Ідзі бястурботна сярод гоману і мітусьні жыцьця, і памятай, што спакой можа быць знойдзены ў цішы і без нарушэньня добрых суадносінаў зь людзьмі. Выказвай сваю праўду спакойна і ясна; і слухай іншых, нават тупагаловых і неасьвеганых; яны гэтаксама маюць сваё апавяданьне. Абмінай крыклівых і нахабных людзей, яны зьяўляюцца турботнымі для духа. Калі ты параўноўваеш самога сябе зь іншымі, ты можаш стацца абескуражаным і рашгараваным; бо заўсёды знойдуцца людзі большыя і меншыя гымся ты. Радуйся з прыгыны тваіх асягненьняў, як і з прыгыны тваіх замераў. Падтрымлівай зацікаўленьне ў выбранай галіне працы, усяроўна, як скромнай яна можа быць; бо яна зьяўляецца запраўдным уладаньнем у зьменьваюгым шгасьце гасе. Практыкуй асьцярожнасьць у тваіх практыгных справах; бо сьвет поўны здрады. Але няхай гэта не асьляпляе цябе перад тым, што зьяўляецца мужнасьцю ў ім; шматлікія зь людзей імкнуцца да высокіх ідэалаў; і жыцьцё напоўнена гэраізмам. Астанься самым сабою. Асабліва ня прыкідвайся фанабэрыстым. Ня будзь цынігным адносна любові, бо перад тварам усяе абыдзённасьці і рашгараваньня яна зьяўляецца сталым, як трава. Бяры дабразыгліва навуку гадоў, ласкава пад· даюгыся няўхільнасьці ўступаюгае маладосьці. Пранікай сілу духа, каб ахінуцца табе ў непрадбаганай нядолі. Але не абескуражвай самога сябе ўяўленьнямі. Страх родзіцца гаста са змуганасьці і адзіноты. Пасьля здаровага самаздысцыплінаваньня будзь далікатным з самім сабою. Ты зьяўляешся дзіцем сьвету, ня меней, як дрэвы і зоры; ты маеш права быць на гэтым сьвеце. І ўсяроўна, ясным гэта для цябе ці не, сусьвет астаецца неабсяжным, якім ён і павінен быць. Дзелягэтага будзь у сузгодзьдзі з Богам, усяроўна, як ты*

*ўяўляеш Яго сабе, і ўсяроўна, якою зьяўляецца твая праца і твае асьпірацыі; у гаманлівай зьбянтэжанасьці жыцьця падтрымлівай супакой са сваею душою. З усім ягоным сорамам і цяжкаю працаю, і са скрушанымі лятуценьнямі, сьвет усё-ж астаецца прыгожым. Будзь асьцярожным. Імкніся быць шчасьлівым.*

(Рукапіс, датаваны 1692 г., знойдзены ў Англіканскай царкве Ўсіх Сьвятых у Балтімор. Пераклад з ангельскае мовы. Узята з *Тугэдэр*, студзень, 1966).

*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# Народ і ягоная царква

## АБУДЖАНЫЯ РЭМІНІСЦЭНСЫІ ПАСЬЛЯ ПРАЧЫТАНЬНЯ ПЕРШАЕ КНІГІ ГАРАВАТКІ — ДЗЯРЛІВАЯ ПТУШКА

### II

У дадзеным выпадку сьвятар абцяжаны адказнасьцю. Сьвятарская праца — самая адказная праца, асабліва тады, калі сьвятар хоча астацца сьвятаром і ня хоча стацца ўрадоўцам.

Кажная царква па-своему рэгулюе справу аплаты за трэбы, выконваныя сьвятаром, але найляпей паступаюць тыя цэрквы, якія ня маюць і не бяруць вызначаных аплатаў з гэтае прычыны.

Анармальны стан, існуючы ў беларускай царкве ўсіх дэнамінацыяў, выплывае з гістарычна-палітычнага падкладу.

Калі якая-небудзь царква пачынала працу сярод беларускага народу, яна, у сілу неабходнасьці, пачынала працу ў Рэчыпаспалітай Польскай.

Тутака спляталіся з сабою тры фактары, маючыя часта супярэчныя сабе мэты: Беларускі народ, польская дзяржава і царква.

Узаемныя суадносіны паміж паасобнымі цэрквамі і дзяржаваю вызначаліся пісанымі ўмовамі, канкардатамі ці іншымі падобнага характару дакумантамі. Зьмест іх меў адно супольнае для сябе: ён абясьпечваў максімум выгадаў для дзяржавы, якая, са свае стараны, бараніла царкву і ўспамагала фінансава.

Зьявішча атрымліваньня ад дзяржавы матэрыяльных успа-

могаў у якой-небудзь хворме, гэта —як гісторыя вучыць нас— зьявішча анармальнае і шкоднае для царквы.

Кажны сьвятар стаяў перад абавязкам служэньня царкве і дзяржаве. Калі, аднак, сьвятар чуўся беларусам, тады справа для яго камплікавалася. Гэтакі сьвятар заўсёды стаяў на раздарожжы ўласнага сумленьня.

Як рэгула, на чале кажнае царквы стаяць чужыя людзі з пункту гледжаньня нацыянальнага і, яны-ж брацьця ў Хрысьце, з пункту гледжаньня хрысьціянскае традыцыі. Гэты дуалізм з бегам часу вытварыў тып сьвятара з затрачанаю здольнасьцю вычуцьця ўласнага права і нацыянальнае годнасьці.

Беларускі вернік у нізе мае труднасьці са сьвятаром, калі апошні не зьяўляецца беларусам. Калі-ж сьвятар зьяўляецца беларусам, ён мае труднасьці са сваімі ўладамі на версе. І чым вышэй мы ідзем па царкоўнай драбіне, тым меней знаходзім зразуменьня для беларускае справы.

Беларускі каталіцкі сьвятар, будучы забавязаным прысягаю паслухмянасьці перад уладамі свае царквы, сьціснуўшы сэрца, мусіць спакойна прыняць пастанову царквы і ехаць у далёкую краіну, аглядаючыся з болем у сэрцы на свой пакрыўджаны і пакінуты ім народ. Трагічнае змаганьне ў трыццатых гадох беларускіх каталікаў за свае правы на ўсіх этапах царкоўнае арганізацыі, да Рыму ўключна, пакінула па сабе яшчэ адзін доказ гэтага.

У праваслаўнай царкве суадносіны ў дадзеным выпадку не прадстаўляюцца ляпей. Гэта была польская праваслаўная аўтокефальная царква. Усе пастановы, надаючыя характар працы тут, ішлі зьверху, з Варшавы і хварлмаваліся ў сузгоднасьці з інтарэсамі польскага гаспадарства ў першую чаргу. Праўда, праваслаўнага сьвятара ня можна было гэтак лёгка выслаць за мяжу, дый ня было патрэбы, але яго можна было дыскрымінаваць, уціскаць. І гэта рабілася пры кажнай нагодзе.

Адносна нэопратэстанцкіх цэркваў можна сказаць болей чымся рамы нашага часапісу пазваляюць.

Цэрквы гэтыя паміж беларускім народам рэгулярна пачынаюць працаваць зь першае паловы дваццатых гадоў.

Незалежна ад таго, як мы ўяўляем сабе паасобныя нэопратэстнацкія цэрквы, у дадзеным пэрыядзе часу, яны ўсё яшчэ і пераважна аставаліся ў стане місыяў і ня мелі праўнага акрэсьленьня іхных суадносінаў да дзяржавы. Факт гэты хоць і астаецца фармальным, мае далёкасягаючае практычнае значэньне.

Як рэгула, праца тут запачаткоўваецца і пасьля кіруецца

людзьмі, прыбыўшымі з замежжа. Людзі гэтыя ня маюць ніякіх суадносінаў да беларусаў. Беларускі элемэнт становіцца для іх нагэтулькі блізкім, паколькі ён вяжацца з іхнаю задачаю прапаведваньня эвангельля.

Гэтакі місыянер ня быў высланы сваімі царкоўнымі ўладамі на працу сярод беларусаў, скажам, на "Крэсы Всходне". Ён быў высланы на працу, перадусім, у Польшчу.

Кажны гэткі місыянер, прыбываючы на працу на землі беларускія, быў высланы цэнтральнымі ўладамі дадзенае царквы, якія знаходзіліся далёка за межамі нашае бацькаўшчыны. І місыянер гэтакі ў першую і апошнюю чаргу быў падпарадкаваны сваім царкоўным уладам, на вернасьць якім ён загадзя даў зарок.

Місыянер мог браць жывы ўдзел у рэлігійным жыцьці беларускага народу, мог мець тыя ці іншыя дачыненьні да беларускае мовы, як добрага ці нядобрага інструманту ў сваей працы, мог удзельнічаць у пэўных рамах у эканамічным жыцьці народу. Але ён, у сілу свае натуры, ня мог ужо браць удзелу ў справах асьветы і наадрэз адмаўляўся нават ад гутаркі на палітычныя тэмы, якія гэтак цесна вязаліся з праблемамі народу.

Як вялікая памеха, а магчыма адна з найбольшых, выступала з факту разыходжаньня інтарэсаў паміж беларусам і навопрыбылым, які, апрача працы чыста рэлігійнай, меў заўсёды на ўвазе той палітычны мамэнт, накінуты яму ягонымі арганізацыямі, якія апрача палітычных мэтаў, ня мелі нічога супольнага з рэлігійным фактарам, хіба што апошні ўважаўся імі за сродак.

І, калі мэты тут разыходзіліся, нічога дзіўнага, што раней ці пазьней прыходзіла да судыраньня супраэчных інтарэсаў.

Бяручы пад увагу факт, што некаторыя пратэстанцкія цэрквы на месцы ня мелі людзей на кіруючых становішчах з высокаю асьветаю і, бяручы пад увагу псыхалягічнае зьявішча рэлігійнае зайздрасьці сярод канвэртытаў і непадрыхтаванасьць самое масы, якая цяпер становіцца іхным аб’ектам, вытвараецца нейкі абстрактны падход да беларускага народу і ягоных мэтаў. На беларускасьць тут глядзіцца з пэўнаю варожасьцю. Кажны вернік, які, ня дай Божа, запяе беларускую народную песьню, уважаецца бадай-што за няверуючага. Слова "нацыяналізм" ўважаецца за чорта з рагамі. Паняцьці тут путаюцца і людзей выхоўваецца ў нясьведамасьці.

Іншыя місыянеры пачынаюць прапаведваць навукі гутаркі на г. зв. чужых мовах, што, пры спэцыфічных абставінах нашае вёскі, стварае сваеасаблівую атмасфэру падтрымліваньня цемры, паралізаваньня і так прыгнечанае ініцыятывы і забіваньня ўся-

кага творчага зруху.

Сярод польскага пратэстантызму зь першых дзён, здаецца, ягонага існаваньня выступала зьявішча, характэрнае для суадносінаў на дадзеным абшары.

Ад часу рэфармацыі ўплывы з замежжа, асабліва зь Нямеччыны, Швайцарыі ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы заўсёды з тым ці іншым насіленьнем знаходзілі сваё выражэньне, дарогаю праніканьня вестак, распаўсюджаньня літаратуры, адведзінаў вітаных людзей, арганізацыі новапрыбылых у царкоўныя адзінкі . . . Вынікала гэта пераважна з факту, што сама рэфармацыя была прадуктам заходня-эўрапэйскім наагул, і ”нямецкім“ ў апрычонасьці.

На працягу рэлігійнага змаганьня, якое трывала зь першых дзён рэфармацыі і да нашага часу, польская рымска-каталіцкая царква вуснамі сваіх прадстаўнікоў часта высоўвала аргумант супроць пратэстантаў, што апошнія, дзякуючы сваей веры і зносінам са сваімі аднаверцамі за межжамі, стаюцца рассаднікамі варожых уплываў у краю, у апрычонасьці гэрманізацыі. Пратэстанцкая вера — паводля католікаў — гэта нямецкая вера, пратэстанцкая царква — гэта нямецкая кірха, іхная багаслужба — гэта штунда, іхная мова — гэта нямецкая мова.

Кажнае цьверджаньне — праўдзівае ці няпраўдзівае — калі яно паўтараецца і зноў паўтараецца, можа з часам стварыць уражаньне нейкае праўды. І пратэстанты бараніліся перад гэтым, як маглі. Найлепшая абарона, натуральна, гэта паказаць сваім суродзічам, і перадусім, урадавым чыньнікам, што пратэстантызм ёсьць гэтаксама польскім, як і рымска-каталіцызм. З гэтае прычыны — паводля прынцыпу, што, каб папасьці ў мэту, трэба браць за мэту, — польскія пратэстанты ў нашых днях хварабліва імкнуліся да поўнае палянізацыі сваіх цэркваў і выэліміноўваньня ўсяго таго, што магло-б стацца прычынаю слушных ці няслушных закідаў.

Дзелятаго, што каталіцкасьць у Польшы сталася сынанімам польскасьці, польскі пратэстантызм хоць тэарэтычна і не падзяляў гэтага пераканаНьня, тымняменей , не хацеў адставаць ад католікаў у прадмеце польскасьці.

Гэтая пастава польскага пратэстантызму не магла не адбіцца на суадносінах у паасобных цэрквах, працуючых сярод беларускага народу. Некаторыя цэрквы наагул ня бралі пад увагу ў сваей працы беларускасьці беларускага народу і ягоных жыватных інтарэсаў, выходзячы з простага — як ім здавалася — залажэньня, што яны прапаведуюць эвангельле і працуюць у справе збаўленьня душы. І ўсё. А тое, што без збаўленьня нацыянальнага нямашака збаўленьня вечнага, яны прамоўчвалі.

Трэба сьцьвердзіць, што закіды, прыведзеныя вышэй, калі католікі вытыкаюць няспрыяльную для польскага народу, як цэласьці, інклінацыю пратэстантаў ў бок замежнага элемэнту, мае ў пэўным аспэкце сваё апраўданьне. Гэта можна і трэба разумець у разрэзе жыцьцёвае няўхільнасьці. Новаўзьніклыя пратэстанцкія супольнасьці цэмэнтуюцца супольнасьцю пагляду іхных вернікаў тут, у краю і там — за межаю. Як новапаўсталыя, яны патрабуюць духовае, маральнае, часта праўнае, а гэтаксама і эканамічнае падтрымкі. Бяз гэтага заплечча многія пратэстанцкія кангрэгацыі не праіснавалі-б і аднаго году. Гэта была няўхільнасьць.

З другой стараны, усё хрысьціянства ў нас — гэта прадукт, калі гэтак можна сказаць, замежжа. Зьявішча сярод пратэстантаў лучнасьці з замежжам і ўплываньня гэтага замежжа на яго — гэта зьявішча агульнага характару, і свомае для кажнае ў нас царквы.

Рымска-каталіцкая царква ў нас мае сваю лучнасьць з г. зв. заходнім хрысьціянствам. Рым стаецца на працягу вякоў духовым асяродзьдзем. Але, ці толькі духовым? Рым гэта ня толькі асяродак хрысьціянскае навукі. Рым — гэта сталіца італьянскага народу. І італьянскі народ быў заўсёды сьведамы таго факту, што, пашыраючы праз Рым навуку хрысьціянскую, ён пашыраў гэтым самым палітычныя ўплывы. Нашая гісторыя перапоўнена фактамі, калі інтарэсы італьянскага народу востра разыходзіліся з інтарэсамі нашага краю. І ня толькі разыходзіліся; у пэўных пэрыядах часу яны ставаліся катастрафальнымі для нас.

У адрозьненьні ад заходняга хрысьціянства, хрысьціянства ўсходняга абраду, носіць на сабе характар, свомы культуры грэцкага народу. Не ўваходзячы ў ацэну гэтага характару, фактам астаецца тое, што пастановы грэцкае царквы, якія крышталізаваліся на лічных саборах, тварыліся ў часе, калі беларускага народу ня відна яшчэ было на гістарычным гарызонце. Можна сумлявацца, ці вынесеныя ў тым сівым часе грэкамі пастановы, хоць-бы найлепшымі людзьмі і найлепшай волі, грэкамі, якія нічога ня ведалі пра Беларусь і беларусаў, маюць нейкае дачыненьне да нас, якія жывем у XX стагодзьдзі, г. зн. добрых пятнаццаць стагодзьдзяў пасьля ўхвармаваньня ў каноны гэтых пастановаў.

У вацэне часу і падзеяў ня можна аднаго згубіць зь віду: Усе плюсы і мінусы, якія гэтак яскрава выступаюць у пэрспэктыве рэлігійнае працы сярод усіх цэркваў беларускага народу, не абавязкава выступаюць з прычыны добрае ці злое волі якіх-небудзь людзей. Гэта пераважна і перадусім выступае з

прычыны факту нашае палітычнае залежнасьці.

Кажуць, што кажны народ у дадзеным часе мае гэтакі ўрад, на які ён заслужыў. Калі гэта ёсьць праўдаю, дык праўдаю можа быць і тое, што кажны народ мае гэткую царкву, якую ён здольны быў выпрадукаваць у працэсе свае гісторыі.

Бахмач і Абухаў зьяўляюцца прадстаўнікамі свайго часу, свайго перакананьня, свае царквы.

□ □ □ □

## ПА РАДКОХ ДРУКУ

Чаму маўчаў?

На гэтае пытаньне, чаму маўчаў папа Пій XII і ня выступіў у вабароне жыдоў у часе Другое сусьветнае вайны, пратэстуючы перад сьветам, шукае адказу Я. Савіцкі ў кароткай стацьці п. т. "Пій XII і жыды" (Божым Шляхам, № 6, 1965).

У прадмеце гэтым можна высоўваць аргумэнты "за" і "супроць". Агульна бяручы, Савіцкі прыходзіць да адзіна трапнага адказу, зьмешчанага ў вадным з канцовых сказаў: "Тут вялікі сорам за наш XX век".

Пратэстанту, Рольфу Гохгуту, пішучы свайго "Штэльфэртрэтэра", ня ішло пра тое, каб абвінаваціць рымска-каталіцкую царкву, як гэткую, аб абыякавасьць у вабліччы няшчасьця людзкога. Ён гаварыў пра "намесьніка", але меў на ўвазе цэлае хрысьціянства.

На прыканцы 1939 году на Захадзе існавала яшчэ старая ваенная традыцыя рыцарскасьці, а паняцьце вайны ў кругох дыпляматаў разглядалася, як паняцьце адноснае. З другой старany, якая-колечы ацэна была нямецкага нацыянал-сацыялізму, яна была іншай у 1939 годзе і іншай у 1945. Калі адгрымелі гарматы, і дажджы апаласкалі кроў зь зямлі, сьвет адказных дзяржаўных мужоў і адказных людзей *усіх* рэлігійных інстытуцыяў спасьцярог і зразумеў, што пазыцыя "расходу" значна перавысіла пазыцыю "прыходу". Калькулятары абмыліліся.

У гэтым і ляжыць вялікі сорам XX стагодзьдзя.

✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠✠

І што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а палена ў сваім воку не адчуваеш?

Ці як скажаш брату свайму: дай, я выму сучок з вока твайго, а вось у тваім воку палена?

Крывадушнік! Дастань перш палена з вока твайго і тады ўгледзіш, як дастаць сучок з вока брата твайго.

*Эв. паводля Мацьв. 7:3-5.*

*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# Культура ў пэрспэктыве

## ”ГАРА СТОГНЕ — МЫШ РОДЗІЦЦА“

Сівыя валасы зьяўляюцца азнакаю веку, а ня мудрасьці.

*Старая грэцкая пагаворка*

I

Абазначаны нумарам 1 і месяцам лістападам 1965 г., выйшаў з друку ”Незалежнік“, падтытул якога кажа, што гэта ёсьць ”культурна-асьветны і грамадзкі часапіс вялікалітоўскі (беларускі)“.

Два аркушы непавязанае між сабою паперы, налічваючыя шэсьць бачын, рэдагуе прафэсар доктар Ян Станкевіч і пачынаюцца ўступным словам, якім яны прадстаўляюцца чытачу.

У гэтым уступным слове — якое ня мае загалоўку — пералічваюцца ўсе ўра!-патрыятычныя прыметнікі і вылічаныя ўсе ведамыя ідэалы і ўзьнёслыя мэты.

У гэтым першым артыкуле, падпісаным выдавецтвам і рэдакцыяй, гаворыцца, што цяперака наступіла эра і прыступаецца ”да сьвятое справы службы народу“ [1] і ”эміграцыі ягонае“ і, што наяўнай ёсьць патрэба ”ідэялягічнага, культурнага і палітычнага выробленьня нашых людзей“.

Дзелятаго, што словы ”выробляць“, ”вырабляцца“ маюць многа значэньняў і, каб у чытача не засталося ніякіх сумліваў, штó паважаны прафэсар разумее пад выражэньнямі ”сьвятая служба народу“ і ”культурнае выробленьне“ людзей, пачынаючы з бачыны трэйцяе гэтага ”часапісу“, падаецца значных памераў ”артыкул“, займаючы бяз мала дзьве трэйціі публікацыі, і падпісаны др Янам Станкевічам, п. т. ”Бэлер Менск“. У гэтым артыкуле, пазбаўленым характару якой-небудзь культурнасьці ці асьветы, выварочваецца на галавы сваіх суродзічаў кал і злавоньне, дыскрымінуючы і ачар-

[1] Цытаты із ”Незалежніка“ падаюцца паводля карэкты.

# THE WHITERUTHENIAN PRESS is:

*PRINTING PERFORMANCE IN*

ENGLISH

Sheep live very placidly together, and they are considered very easygoing, because we do not see the prodigious quantity of animals they devour. It is possible, of course, that they eat them innocently and without knowing it, as we do when we eat a Sassenage cheese. The republic of the sheep is a faithful representation of the golden age.

*in Foreign Languages*:

Ale jon, katory ciapieraka źviartajecca da vas z adrysam, nia maje časovaje ŭłady, ani hordaści, spaborničać z vami. Faktyčna, my ničoha nia prosim, i nie padymajem pytańnia; my tolki majem žadańnie vyrazić i dazvoł prasić: pajmienna, kab słužyć vam u toj miery, u jakoj my možam, z biezinterasoŭnaściu, z pakoraju i luboŭju.

WHITERUTHENIAN

Кажны чалавек шукае для сябе ўзору, ідэалу, нейкае вышэйшасьці, да ўзьверху якое ён хоча дайсьці. І большасьць з нас бачыла гэты ідэал сярод людзей навукі, сярод тых, якія рэпрэзэнтавалі рост духовае і матэрыяльнае культуры ў мудрасьці, у ведзе, у спосабе выказваньня думкі, у манерах і агульнай агладзе.

UKRAINIAN

Отож, стає зрозумілим, чому її внук, Володимир Великий, впровадив християнство в Русь-Україну й оголосив його за віровизнання державне. Він пішов слідами імператора рымського Костянтина Великого, що ввів християнство урядовою дорогою до Римскої імперії, коли переконався, що поганство вмирає, а більшість селян і вояків стали християнами.

RUSSIAN

**Простоял старый дьявол день на каланче, простоял другой — все говорил. Захотелось ему есть. А дураки и не догадались хлебца ему на каланчу принесть. Они думали, что если он головой может лучше рук работать, так уж хлеба-то себе шутя головой добудет. Простоял и другой день старый дьявол на вышке — все говорил. А народ подойдет, посмотрит-посмотрит и разойдется.**

GERMAN

In der Kabine der "X—112" herschte zu dieser Zeit eine nervöse Spannung: Das Leitstrahlsuchtgerät arbeitete nicht! Was das bedeutete, war jedem der Besatzung klar: nicht mehr zurück zum Leitstrahl . . . keine Verbindung mit der Erde . . .

POLISH

Ramy chronologiczne Słownika obejmują dzisiejszą polszczyznę. Współczesność została potraktowana stosunkowo wąsko i ograniczona do wieku XX. Pominięto zatem wyrazy przestarzałe, właściwe tylko staropolszczyźnie, lub też wyszedłe z użycia w wiekach późniejszych, pozostawiając tylko te, które spotyka się jeszcze niekiedy w literaturze XX wieku. Usunięto poza tym bardzo

— Wedding Invitations
— Programs
— Announcements
— Post Cards
— Stationery
— Business Cards
— Personal Cards
— Invitations
— Circulars
— Factory Forms
— **Pads**

— Tickets
— File Cards
— Payroll Lists
— Greeting Cards
— Billheads
— Mailing Labels
— Church Calendars
— Statements
— Napkins
— Tags

**and others**

*Mr. and Mrs. Joseph F. Kaladny*
*request the honour of your presence*
*at the marriage of their daughter*
*Margaret Catherine*
*to*
*Mr. Joseph Anthony Nudry*
*Saturday, the nineteenth of February*
*Nineteen hundred and sixty-six*
*at ten o' clock*
*Our Lady of Lourdes Church*
*301 Valley Drive*
*Syracuse, New York*

*Reception*
*1:30 - 4 P.M.*
*Tommy Del's*
*1029 Milton Avenue*
*Solvay, New York*

няючы многіх людзей. Пры гэтым, каб падмацаваць гэтую агіду і разьдзьмухаць смурод у Бэлер Менску і далёка за ягонымі межамі, да "Незалежніка" далучаны "зварот", гэтаксама падпісаны др Я. Станкевічам, у якім на шасьці доўгіх бачынах гэты бруд яшчэ раз выліваецца і пераліваецца, каб стварыць атмасфэру зьнішчэньня таго, што добрыя людзі ў форме карпарацыі стараліся паклікаць да жыцьця.

Усё гэта ўзятае разам нас ня дзівіць. Пры адносна высокіх увязаных у карпарацыі матэрыяльных вартасьцях і нізкім вырабленьні культурным, гэта раней ці пазьней мусіла кончыцца так, як яно кончылася.

Прачытаўшы да канца ўсю гэтую пісаніну, міма волі насоўваецца пытаньне зь ведамага папулярнага анэкдоту: Калі ў вас гэткія афіцэры, дык якія-ж у вас жаўнеры? — На нашае апраўданьне, тут прыходзіць ведамае зьявішча, калі "радавыя" бунтуюцца і пачынаюць клясыфікацыю сваіх "афіцэраў".

Выпускаючы ў сьвет свой часапіс, паважаны прафэсар, праўдападобна, спадзяецца, што гэткіх памераў часапісам і ягоным зьместам можна здаволіць духовыя і культурныя асьпірацыі беларускае эміграцыі, якая жыве ў Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі ў другой палове дваццатага стагодзьдзя. Мусяць паважаны доктар усё яшчэ кіруецца старою арабскаю пагаворкаю, што ў краіне сьляпых аднавокі зьяўляецца ідэалам. Гэта было-б яўнаю памылкаю. Мы не зьяўляемся болей тымі, якімі былі мы некалькі дэкадаў таму назад, і ў ніякім выпадку ня можам прызнаць культурным праявам таго, што ім не зьяўляецца. — Калі-б здарылася — у што мы ня верым — што расьцярушаная нашая эміграцыя прыняла-б падобнага роду публікацыю, як адказваючую ейнаму імкненьню і смаку, гэта ілюстравала-б глыбокі эстэтычны крызыс у нутры яе і факт, што яна затрымалася ў бегу свайго культурнага і духовага разьвіцьця.

Агульна ведамым ёсьць псыхалягічнае зьявішча, калі дзіця, назіраючае сваё акружэньне, хоча стацца гэтакім, як акружэньне, як ягоны бацька ці маці, для прыкладу. Падрастаючы хлапец хоча патрапіць гэтак праз зубы тонкаю нітачкаю пляваць, як чыняць гэта старэйшыя ад яго. Кажны падлетак хоча быць дарослым і абавязкава гэтак трымаць цыгарэту паміж двума пальцамі, як чыняць гэта дарослыя людзі. У гэтым зьявішчы крыецца закон. Кажны зь людзей мае свой нейкі глыбака ў душы ўтоены ідэал насьледаваньня, да якога імкнецца, нават тады, калі і не спасьцерагае гэтага. У духовым і культурным росьце адбываецца гэты самы працэс. Кажны чалавек шукае для

сябе ўзору, ідэалу, нейкае вышэйшасьці, да ўзьверху якое ён хоча дайсьці. І большасьць з нас бачыла гэты ідэал сярод людзей навукі, сярод тых, якія рэпрэзэнтавалі рост духовае і матэрыяльнае культуры ў мудрасьці, у ведзе, у спосабе выказваньня думкі, у манерах і агульнай агладзе.

Нашыя навукоўцы павінны ведаць, што яны зьяўляюцца свайго роду сьвятарамі, якія маюць весьці на ўзвышша тых, што тужаць за гэтым узвышшам. Гэта служба, зьвязаная са значнымі гонарамі. Але гонары цесна вяжуцца з паняцьцем адказнасьці. "Сьвятары", якія ня вывязваюцца належна са сваіх задачаў, могуць напаткаць вялікія траднасьці са стараны "вернікаў".

Калі нашыя людзі ў мінуўшчыне што раз болей і болей зьвярталіся па ўзоры на захад і ўсход, дык ёсьць вялікае праўдападабенства, што з бегам часу яны што раз меней і меней знаходзілі гэтыя ўзоры ў сваім беспасярэднім навакольлі. Дзякуючы спэцыфічным абставінам, пры ўсіх нашых натугах працэс гэты, здаецца, яшчэ і сягоньня аканчальна не затрыманы.

Гаспадар прафэсар доктар Ян Станкевіч прыпамінае нам, як рэч у падобным выпадку маецца "ў іншых народаў". І мы, фактычна, прыпамінаем сабе цяпера тое, што бачылі мы і чулі ў гэтых "іншых народаў". — За катэдраю стаіць прафэсар перад адпаведна дабранаю і самаздысцыплінаванаю аўдыторыяю. Паміж ім і ягонымі слухачамі нявисаная сузгоднасьць і атмасфэра. Тэма ягоная глыбокая і актуальная, выражэньне думкі — яснае і лягічнае, ілюстрацыі — палоняць нас; ягоны вонкавы выгляд і пастава, уклад рук твораць гармонію з дабранымі і высока выстылізаванымі словамі і праўдзіва літаратурнымі выражэньнямі разам з адпаведнаю мадуляцыяю голасу. Усё гэта разам захоплівае слухача.

Вазьмем выпадак, калі прафэсары і людзі навукі выдаюць тыднёвы часапіс, тытул якога, ведама, немагчыма тут падаць. Чытаньне гэтага часапісу было праўдзівым духовым і культурным банкетам. Тут знаходзілі мы культуру і, у праўдзівым сэнсе гэтага слова, літаратуру. Гэта была школа веды, культуры і мастацкага прыгажаства, аўтарытэтаў, на якія мы маглі абаперціся і паклікацца.

Ці рэдактар "Незалежніка" з спакойным сумленьнем чалавека навукі і, палажыўшы руку на сэрца, можа сказаць, што, чытаючы ягоны часапіс, мы ўчынім рух у напрамку культурнага прагрэсу? Астаньмася шчырымі і запытайма самых сябе, ці бацькі, якія шануюць самых сябе і дбаюць пра культурны і духовы

рост сваіх дзяцей, могуць з спакойным сэрцам даць у рукі сваім сынам і дочкам "Незалежніка"? А, калі моладзь будзе чытаць гэткі часапіс, якое яна вынясе ўражаньне з гэтага чытаньня?

У нумары 23 "Беларускае Моладзі" знаходзім г. зв. прамову гасп. А. Лысюка. У гэтай прамове, скіраванай да прадстаўнікоў славутай БАЗА, сярод іншага чытаем: "Таму дзіўна і нядобра, што некаторыя беларусы, што вызначаюцца нацыянальнай дзейнасьцю і патрыятызмам, ня спрыяюць сваім дзецям уступіць у рады ЗБМА . . . " І далей ідзе просьба супрацы. Ані просьбы, ані грозьбы тут нічога не памогуць. Усё, што тут у гэтым працэсе, часта незалежным ад нас, патрабуецца — гэта стварыць ня позу культуры і пабожна-нацыянальнае таўталёгіі, а прыклад і даць узор праўдзівае культуры для ўнутранага росту і запраўднае дзейнасьці палітычнае. Якжаж, напрыклад, можна апэляваць да беларускага сумленьня і заахвочваць беларускую моладзь, калі нашая прафэсура яшчэ і сягоньня, дваццаць гадоў пасьля заканчэньня Другое сусьветнае вайны, не абазвалася ані водным добрым словам узнаньня за харобрае дзеяньне беларускае моладзі ў гадох 1939—1945 за тое самае дзеяньне, да якога ў гэтых самых гадох заклікала беларускую моладзь гэтая-ж самая прафэсура!? Ці запраўды, рыба псуецца з галавы?

Як доўга ў нас будуць выходзіць розныя "незалежнікі", гэтак доўга бацькі і іхныя нашчадкі будуць шукаць для сябе духовае і культурнае пажывы "ў іншых народаў". Пісаць сягоньня толькі па-беларуску — мала.

Гэтае адхіленьне заслоны, якое чыніць для нас Лысюк і фэномэн у хворме "Незалежніка", павінны стацца прадметам зацікаўленьня для нас і на адумысных зборках, прысьвечаных для гэтае мэты, павінны грунтоўна і з усёю павагаю дыскутавацца прычыны анармальнага зьявішча і шукаць аздараўленьня.

Уваднfamous месцы чытаем, што "'Незалежнік' будзе кіравацца прынцыпамі, выкладзенымі др Я. Станкевічам у ягоных артыкулах, у газэце 'Беларус'". — Шкада, што ў гэтым месцы "Незалежнік" чыніць памылку і не падае зноскі, паказваючай, якія артыкулы аўтар мае на ўвазе. Дзелягэтага ня ведама, пра якія такія прынцыпы ідзе гутарка. За апошнія некалькі месяцаў мінулага году, праўда, чыталі мы ў "Беларусе" пару артыкулаў, падпісаных паважаным прафэсарам. Артыкулы гэтыя напісаныя хаотычна, а думцы бракуе лягічнага павязаньня, і патрабуюць яшчэ добрае рэдак-

цыі. І там нічога такога не знайшлі мы, што можна было-б назваць прынцыпамі. Чытаючы гэтыя артыкулы, прыпамінаецца нам прафэсар Вакар са сваею Belorussia, у якой ён утрымлівае, што ў сучаснай беларускай літаратуры адсутнічаюць працы на абстрактныя тэмы, і адносіцца пры гэтым ўражаньне, што др Я. Станкевіч сваімі млявымі артыкуламі — абстрактнасьць і мутнасьць думкі часта людзьмі прыймаюцца за сынанімы — сіліцца выпаўніць гэты прабел. Але гэта толькі ўражаньне.

Пасьля заахвочаньня пісаць у часапіс, уступнае слова канчаецца шмат вымоўным сказам: "У "Незалежніку" будзем рабіць моўную рэдакцыю ўсяго [нада-сланага] матэрыялу".

Нешта падобнае мы ўжо недзе чулі.

Калі-б мы мелі ў Злучаных Штатах "Маланку", магчыма, знайшлі-б мы ў ёй гэтакі вобраз:

Перад намі нутро хірургічнае залі. Пасярэдзіне апэрацыйны стол, накрыты беласьнежным прасьціраддлам, на зьвісаючых берагох якога віднеецца напіс РЭДАКЦЫЯ НЕЗАЛЕЖНІКА. На стале ў ляжачай пазыцыі і без наркозы вырываецца пацыент — гаспадар Артыкул, якога трымаюць два рослыя юнакі, як прадстаўнікі г. зв. выдавецтва і рэдакцыі. Сам галоўны рэдактар з засуканымі рукавамі і з магутным скальпэлем філялёгіі выконвае вівісэкцыю над жывым целам Артыкулу. Пасьля гэткае апэрацыі Артыкул болей ня вырываецца. Ён памёр.

Але адкіньма жарты набок. Так ці інакш, лябараторыя для аздараўленьня беларускае мовы адкрыта з паданьнем адрысу. Жадаючых адмаладзіцца, запрашаем!

Рэдактар "Незалежніка" павінен ведаць, што нашае слова *рэдагаваць*, выводзіцца ад лацінскага redigere і значыць упарадкаваць, устанавіць, спраўдзіць і паправіць тэкст або рукапіс, надаць яму апошнюю літаратурную хворму, інакш кажучы, правесьці *рэдакцыю*, прыгатаўляючы матэрыял да друку. І рэдактар "Незалежніка" свайго заданьня ня выканаў. У "Незалежніку" многа памылак, перайначваньняў агульна прынятых беларускіх словаў, невыпрацованых сказаў, неапраўданае гордасьці вучонага і някультурнага зьместу, памінаючы тэхнічныя недакладнасьці.

Дзелягэтага, кажны з нас, хто шануе сваю выпрацаваную беларускую мову і дбае пра культурны ўзровень, не павінен чытаць "Незалежніка", а, калі мае чытаць, павінен чытаць зь вялікаю асьцярожнасьцю.

**ЧАСТКІ ПЕРШАЕ КАНЕЦ**

## ВОДГУКІ пасьля выданьня 2(81) нумару Сьветача Хрыстовае Навукі, прысьвечанага Гальляшу Леўчыку

**Рэдактару:**

Прачытаўшы чарговы нумар "Сьветача Хрыстовае Навукі" (№2 за 1965 г.), прысьвечанага Гальляшу Леўчыку, мне захацелася выказаць сардэчнае "дзякуй" за такі карысны і патрэбны нумар. Матар'ял аб беларускім паэце Гальляшу Леўчыку, надрукаваны ў згаданым нумары Вашага часапісу, будзе з удзячнасьцю скарыстаны кажным будучым гісторыкам беларускае літаратуры. Ён становіць незамянімы матар'ял для напісаньня біяграфіі гэтага загінуўшага без пары і пры невядомых абставінах старэйшага беларускага паэты-нашаніўца. А на сяньня ўжо, акрамя апошняй рэпрэзэнтанткі нашаніўскае пары, паэтэсы Канстанцыі Буйлы, нікога з нашаніўцаў не засталося. Пару гадоў таму назад памёр Янка Журба (Івашын), а раней яго адыйшоў ад нас Якуб Колас. Пасьля Канстанцыі Буйлы нікога з іх больш не застанецца. А эпоха нашаніўства тым самым стане для нас далёкай гісторыяй. Але гэта гісторыя запачаткаваньня нашае беларускае, нават моваю, газэты і найноўшае адраджэнчае літаратуры, якая дала нам найбольшых волатаў мастацкага слова — Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Зьмітрука Бядулю, Ядвігіна Ш. (Лявіцкага), Алеся Гаруна, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, Ул. Галубка, К. Каганца і іншых, а таксама колькі меньш знаных, але разам з тым важных для паўнаты гісторыі нашаніўскае пары фігураў. Ваш уклад у справу вывучэньня аднаго з іх зроблены згаданым нумарам часапісу. За гэта Вам належыцца ўдзячнасьць ад усіх аматараў і дасьледнікаў роднае культуры і літаратуры.

**Уладзімер Глыбінны**

**Рэдактару:**

Калі я прачытала артыкул пра Г. Леўчыка, усьцешылася, як бы спаткалася із старымі знаёмымі . . .

Г. Ляўковіч жыў якісь час на гасподзе ў нас, калі працаваў над перакладам песьняў да беларускага рэлігійнага песеньніка. Калі малачарка прыносіла нам малако, ён браў так сама сабе і паказваў мне, як зьбірае сьмятану і пасьля смажыць яечкі на сьмятане. Ён працаваў у сваім пакою а часам хадзіў да мужа, каб парадзіцца з ім аб некаторым слове. Я заўсёды мела ўражаньне, што ён уваходзіць мілы, як баранчык і пасьля дыскусыі выходзіць, як равучы леў.

У нас была дзяўчына Маня, баптыстка, якая часта клікала сваю сяброўку, каб памагла пры працы. Тады часта зьвінелі песьні Ляўковічавага перакладу: "Ня мінай мяне, мой Спасе . . . " і іншыя.

**Марыя Станкевіч**

**Рэдактару:**

Ад нейкага часу я пачаў атрымоўваць Ваш зьмястоўны і добра выдаваны часапіс "Сьветач Хрыстовае Навукі". У апошнім нумары 2(81) вельмі цікава было чытаць Вашыя біяграфічныя ма-

тэрыялы і ўспаміны пра Гальляша Ляўковіча. Гэтыя рэчы маюць вялікае значэньне для гісторыі беларускае літаратуры, ды наагул гісторыі нашага культурна-палітычнага адраджэньня. Таксама з цікавасьцяй буду чакаць прадаўжэньня Вашых заўвагаў на тэму "Народ і ягоная царква . . . "

**П. Манькоўскі**

# ПРАВА ДА ЖЫЦЬЦЯ І РОЗНАЯ ЯГОНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ

**Калі ты грозны, мужычок?**
**— Як з жонкаю б'юся.**
Зь беларускае паэзыі

БЫЛО ГЭТА ўлетку, калі я добра памятаю, 1916 году. Зьявішча гэтак званага бежанства ў гэтым часе было ўжо шырака ведамае сярод нас, і ў Слуцак на Школішча прыбыла многа людзей, пераважна польскіх жыдоў. Сям-там спатыкаліся і польскія сем'і. Адна гэткая польская сям'я — муж, жонка і хлапец у веку каля васьмі гадоў — затрымалася ў Зосі Волат. (Зося Волат і яе два сыны, Болесь і Стась, тварылі сабою беларускую каталіцкую сям'ю).

Стаяў цёплы летні дзень. Здарылася, што на нашай Бычковай вуліцы каля Зосінае хаты сфармавалася нейк болей людзей чымся звычайна. Зьнічэўку пачуўся нейкі крык і піск каля Зосінае хаты. Жонка паляка, што знаходзілася разам зь іншымі, крычала, што нехта яе крыўдзіць і хутка зьвярнулася да свайго хлапца з наказам, каб гэты бег зваць бацьку. Я стаяў насупраць Зосінае хаты каля брамы Грынька, і, калі я скіраваў свой зрок у напрамку скуль даходзілі піск і мітусьня, я пабачаў хлапца, які бег ужо клікаць свайго бацьку, палячку, наракаючую, што яе нехта б'е, іншых людзей каля яе і Мішу Грынькавага, рослага юнака гадоў каля васімнаццаці. Не прамінула можа і дзьве мінюты, як муж палячкі бег ужо. Ён хутка кінуўся ў васяродзьдзе зграмаджаных каля свае жонкі і, ня пытаючыся што і як, пачаў біць Мішу Грынькавага. Прысутныя, сярод іх ужо і сам Грынёк, які на крыкі ў міжчасе выйшаў на свой панадворак, і ягоная жонка, Марыля, што выглядала праз вакно, адным хорам пачалі крычаць паляку: Гэта ня ён! гэта ня ён!, перасьцерагаючы паляка, што ён б'е нявіннага чалавека. Многа ці мала біў паляк Мішу, але першая злосьць была спагнаная.

Мне было тады адзінаццаць гадоў. Я стаяў збоку і прыглядаўся гэтай дзіўнай сцэне, якая асталася ў памяці аж да сягоньня. Усё гэта мне выдалося і дзіўным, і да болю страшным: паводзіны паляка і, перадусім, нашых людзей. Я глядзеў на ўсіх прысутных, асабліва на старшых ад мяне і я чуўся пакрыўджаным і паніжаным. Ніхто з прысутных не здрадзіў ніякага сьледу абурэньня ці гневу з прычыны таго, што нейкі прыпадкавы чалавек, чужынец гэтак бяскарна захоўваецца, бяручы права і выкананьне яго ў свае рукі, быццам ён быў усім тут, а людзі, якія жывуць тутака спакон вякоў прыймалі ўсё, быццам гэтак і павінна быць, а іхная беспрэтэн-

сыянальнасьць да жыцьця гаварыла: выбачайце, што жывем.

Я адыходзіў з месца выдарэньня з цяжкім сэрцам, ня могучы знайсьці адказу на свае думкі.

У пазьнейшых гадох, ідучы праз жыцьцё, я пераважна спатыкаў тое самае. Ціхамірнасьць да ступені нейкае хворасьці, абыякавасьць да правоў жыцьця, пахіленыя сьпіны ад селяніна да прафэсара ўключна . . .

//

У 1928 ГОДЗЕ нашая кампанія Школы падхаронжых рэзэрвы 5а ў Цешыне ў летнім месяцы адбывае польнае цьвічэньне. Кампанія знаходзіцца ў хуткім маршы. Дарога на карце творыць сабою вялікую літару **А.** — Абазначма для яснасьці апавяданьня літарамі — **а** для ніжняга левага пункту літары **А, б** — для верхняга пункту і **в** — для ніжняга правага пункту. Нашая кампанія знаходзіцца на высокасьці пункту **в.** Мэта нашага маршу — асягнуць пункт **а.** Каб асягнуць пункт **а,** трэба ісьці на поўнач да пункту **б,** і тады з пункту **б** прыблізна на поўдзень да пункту **а.** Нашая літара **А** на карце мае свомую для сябе папярэчку, якая творыць сабою польную дарогу (абазначма яе: левы пункт сутыку малою літараю **г** і правы — літараю — **д**). Капітан Сломчыньскі, які крочыць на чале кампаніі, паясьняе першай чацьвёрцы, чаму мы ня можам выкарыстаць папярэчнае польнае дарогі **г — д,** але я, ідучы ў вадной з наступных чацьвёрак, нядобра чую яго. Пасьля хвіліны развагі, капітан рашаецца выкарыстаць польную дарогу, каб скараціць час і дарогу маршу. Ідучы польнаю дарогаю **г — д,** мы разглядаемся. Нічога асаблівага тут ня відна. Па левай старане нейкае поле, а далей — лясок. Па правай старане нешта падобнае да саду, за дрэвамі якога відзён дом. Дом гэты нічым ня розьніцца ад іншых падобных дамоў. Пры доме відзён нейкі чалавек. Чалавек, пабачыўшы нас, мерна ідзе нам наперайми. Пасьля нейкага часу чалавек знайшоўся ўжо на дарозе якіх мэтраў 40 перад намі. Чалавек раскрыжаваў рукі на знак перагароды і пачуўся голас: ”Не позвалям!“ Я чую, што ён кажа, але я ўсё яшчэ не разумею значэньня ягоных словаў. Чалавек і кампанія зьбліжаюцца да сябе і чутны тыя самыя словы: ”Не позвалям!“

— Чоло, сту-у-й . . . — дае каманду капітан.

Кампанія затрымалася. Чалавек зноў паўтарае:

— Не позвалям, ест то прыватна дроґа на мэй власносьці . . .

Капітан нічога не адказвае чалавеку. І, зьвяртаючыся да нас, падае каманду: ”За мно ма-а-рш . . .“, заварочваючыся пры гэтым ў напрамку, зь якога толькі што мы прыйшлі.

Мы маршыруем назад. Да мяне далятаюць асобныя словы капітана, які паясьняе: ”Міністэрство справ войсковых . . . скарґі . . . “

Я іду і ўсё яшчэ не магу ўпарадкаваць сваіх думак. Для мяне — гэта новы сьвет, новы парадак, у якім выступае права і годнасьць чалавека, а перадусім факт, што МОЖНА СУПРАЦІЎЛЯЦЦА.

Гэта-ж у жаўнернях бывала, у Лідзе, дзе станцыянаваў наш 77 полк, які ўваходзіў у склад 19-ае г. зв. Літоўска-беларускае дывізыі, мы, жаўнеры на каманду г. зв. старшага шэрэґовца маланкаю сыпаліся пад прычы і з-пад прычаў. Часта на рух толькі ягонага

пальца, мы прысядалі і выпрастоўваліся гэтак многа разоў, колькі яму, старшаму шэрэговцу, толькі падабалася . . . А тут сам пан капітан, разам з кампаніяю школы падхаронжых на нейкае "не пазвалям", *нейкага "хлопа"* мусіць з пакораю дзіцяці завярнуцца і ісьці назад . . . Гэта-ж беларускі селянін, каб пабачыў, што гэткае войска ідзе праз ягоны двор, нават-бы з хаты ня выйшаў, і рад быў-бы, каб адно прайшло ціха і ня спрычыніла яму ніякага ліха. І ніхто яго за ніякія скарбы не нагаварыўбы, каб ён выйшаў і супроцьставіўся якому-небудзь войску і сказаў: "не пазваляю!"

Увесь сьветапагляд чалавека, уся ягоная пастава ў жыцьці, ягоная будучыня залежыць у значнай меры ад ягонага зразуменьня свайго месца на гэтай зямлі, са зразуменьня ягонага права, якое выплывае ад Таго, Хто стварыў і зямлю, і чалавека, і права . . .

//

ГЭТЫЯ ДУМКІ зрадзіліся ў мяне *пасьля прачытаньня* артыкулу К. Акулы п. т. "Мера патрыятызму", зьмешчанага ў "Беларускай Думцы" № 8 за мінулы год.

Праўда, Танасэвіч бароніць свае правы і сваю беларускую годнасьць міжвольна, спантанічна, непрадумана і незарганізавана, і ў спосаб нявыгадны для яго. Але дадатняю азнакаю тут выступае ў беларуса тое, што ён, нарэшце, пачаў бараніць сваю нацыянальную і людзкую годнасьць.

Гэты зрух у душы беларуса мусіць наступіць.

Гэта шлях, што вядзе да волі.

**Ян Пятроўскі**

# Павеў мудрасьці

**Усе шчасьці — нішто перад шчасьцем праўды; усе салодкасьці — нічога перад салодкасьцю праўды; шчасьце праўды бязьмерна перавышае ўсе радасьці.**

З будыйскае мудрасьці

**Дзе пачынаецца шуканьне праўды, там заўсёды пачынаецца жыцьцё; як толькі супыняецца шуканьне праўды, супыняецца і жыцьцё.**

Джон Рёскін

**Тысячы шляхоў вядуць да заблуджэньня; да праўды — толькі адзін.**

Ж.—Ж. Руссо

**Праўда ні ў чым не пазнаецца дарогаю гутарак, а толькі натугаю і назіраньнем.**

Джон Рёскін

**Нічога не перашкаджае гэтак моцна распаўсюджаньню праўды, як упартасьць утрымаць старадаўны, авеены сьвятасьцю часу, перааз.**

Марціно

**Ня шукай праўды ў іншых, калі ў цябе яе няма.**

Зь беларускае скарбніцы

Printed by The Whiteruthenian Press, 452 South Ave., Syracuse N.Y. 13204